*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 19 (1482) 6 ТРАЎНЯ 2020 г.**

# 75-годдзе Перамогі шматнацыянальнага савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне




## Дарагія сябры!

**Сёлета мы адзначаем 75-ю гадавіну Перамогі над фашысцкай навалай.**

**Для многіх пакаленняў беларусаў гэта было, ёсць і будзе Днём гонару за наш свабодны, нескароны народ, Днём гонару за нашых бацькоў і дзядоў, што не скарыліся ворагу, у цяжкіх умовах выстаялі і абаранілі свабоду для сябе і для нас, нашых дзяцей і ўнукаў.**

**Будзем вартыя іх учынку! Зберажом нашу незалежную Беларусь! Моцы, упэўненасці і добрага здароўя вам і ўсім вашым родным.**

**Сакратарыят ТБМ.**

---

### Абаронцам Радзімы

Куды не паедзеш па роднай староцы,
Зямлі нашай любай стаяць абаронцы.
На плошчах, у скверах і нават у полі
Сумуюць аб нечым заступнікі волі.

Шмат гора спазнаў ты, народ Беларусі!
Галовы схіляеш у сцішанай скрусе.
Той жудасны час па-над памяццю вісне,
Сэрца баліць, душу цяжарам цісне.

У бронзе, цэменце ўсё крочаць салдаты,
Не дасягнуць ніяк да радзімае хаты.
Айчыну закрылі жыццямі сваімі,
І родным ніколі не ўбачыцца з імі.

Не пакланіцца ім роднай матулі,
Пяшчоты ад дзетак яны не адчулі.
Слёзы-дажджынкі сцякаюць па тварах…
Няўжо ж хто забудзе аб іхніх ахвярах?!

Абаронцамі праўды вы сталі ў сусвеце.
Ці чуеце нас Вы? - у снах, адкажэце.
Мо кліча Вас зноўку жорсткая бітва?
Бітва за праўду, за волю, за памяць?
За Вас і да Вас гэта наша малітва.

***Мар'ян Даргель.***




### Салёныя падушачкі

- Мам, а сёння кіно - пра вайну!..
Пяць капеек таксама каштуе...
- Пяць капеек, сынок?.. Я знайду,
ну няўжо ж я табе пашкадую?!.

- Мам, а колькі падушачкі з мёдам?
- Ці пакінуў што бацька з палучкі?
- Мам, а што ён зашыў там, пад сподам?
- Мам, а хопіць на сцёрку і ручку?

- Бацьку ты пра кіно не кажы:
ў клубе зноў з яго будуць смяяцца...
- А чаму ён крычыць там, скажы,
чаго крыку яго так баяцца?..

Мама вочы адводзіць у бок
і глядзіць праз вакно на суседку:
- Наш вярнуўся, памог, пэўна, Бог,
а Матрунін вось знікнуў без вестак.

Васямнаццаць, як бацьку, было...
Пяць капеек, гаворыш, каштуе?..
Кнот у лямпе губляе святло,
і па хаце зноў цемра пануе.

Я навобмацак бачу цукеркі,
пазліпаліся - ледзь адарваць...
- Мам, чаму яны ў чыстай талерцы,
а так моцна язык саланяць?

- Мам, ну як мне цябе супакоіць,
што і як мне табе гаварыць?..
Ля вакна нас ізноў непакоіць -
бацька плача ў тым клубе й крычыць...

***Уладзімір Барысенка.***

## Стварыць мемарыял дзецям вайны

6 траўня адзначае 80-годдзе **Уладзімір Сцяпанавіч Ліпскі.**

Уладзімір Ліпскі - аўтар больш як сямідзесяці кніг прозы, публіцыстыкі, казак для дзяцей, нязменны рэдактар часопіса "Вясёлка". Ён падзяліўся ўспамінамі свайго ваеннага дзяцінства і прапановай, з якой звярнуўся ў Менгарвыканкам.

- Калі пачалася вайна, мне быў адзін год і адзін месяц. Пра падзеі мне пазней распавядала маці. Партызанскі разведчык уляцеў у вёску на кані і скамандаваў: "Хутчэй ратуйцеся, ідзе нямецкі карны атрад!" Мама загарнула мяне ў посцілку, а астатнім загадала: "Чапляйцеся за мяне", - і пабеглі! Бацька зняў са сцяны абразак, узяў з печы чыгунок бульбы і ўхапіў даёнку, каб падаіць карову, якая пасвілася паблізу. Усё астатняе кінулі. Нашы Шоўкавічы згарэлі датла. Усё лета, восень, зіму мы жылі ў лесе ў зямлянках, куранях і толькі вясной вярнуліся на папялішча. Я плакаў, і мне, малому, было не шкада ні хаты, ні хлява, а было шкада цацак, якія згарэлі. (Калі я распавядаю пра гэты выпадак дзецям, вочкі ў іх набрыньваюць слязьмі.)

Потым бацька збудаваў маленькую хатку, дзе месціліся дарослыя і дзеці. Карова нарадзіла цялятка, і мы ўзялі яе ў хатку на некаторы час, грэліся ля кароўкі і пілі малачко.

У мяне застаўся шрам на назе, і бацька нагадаў мне пра іншы выпадак. Калі ў мяне распухла нага, ён непрыкметна ляснымі сцяжынамі адвёў мяне ў партызанскі атрад. (Ён моцна рызыкаваў: пры неасцярожным кроку і малейшым шолаху галінкі ў нас маглі стрэліць вартавыя.) Там мне зрабілі аперацыю, і рана загаілася.



Потым шмат думаў і разважаў, што мог быць забітым пры любым выпадку, бо ў вёску неаднаразова прыходзілі немцы. Размова ў іх часам была вельмі кароткая…

Усё менш застаецца сведкаў тых трагічных і гераічных часоў.

Таму ў мяне нарадзілася ідэя стварыць помнік-мемарыял дзецям вайны ва ўшанаванне подзвіга маленькіх пакутнікаў і памочнікаў дарослых, хто перанёс увесь цяжар вайны.

Мемарыяльны комплекс я прапаную стварыць у скверы каля Опернага тэатра, недалёка ад помніка Марату Казею. Туды маглі б прыходзіць школьнікі з настаўнікамі, вывучаць адпаведныя тэмы па гісторыі, ускладаць кветкі.

Варта было б абвесціць конкурс, запрасіўшы студэнтаў, будучых архітэктараў і скульптараў. З лістом я звярнуўся ў Менгарвыканкам. Магчыма, разам мы дагрукаемся з такой прапановай да тых, хто прымае адпаведныя рашэнні.

Я быў ініцыятарам выдання кнігі "Я помню ўсё" . Мы рабілі яе з Міколам Чарняўскім. Туды ўвайшлі ўспаміны Анатоля Вярцінскага, Генадзя Бураўкіна, Рыгора Барадуліна і іншых пра ваеннае дзяцінства. Асобнікі кнігі я ўручаў дзецям у Музеі Вялікай Айчыннай вайны.

У апошнім нумары "Вясёлкі" я надрукаваў апавяданне "Салдацкае пісьмо". Пакуль мама пайшла ў краму, хлопчык апрануў пілотку, загарнуўся ў плашч-палатку, напісаў матулі ліст: "Мама, я пайшоў на фронт! Не хвалюйся, вярнуся з Перамогай!", - і залез у шафу, як у свой танк. Матуля прыйшла дадому, прысела на канапу, прачытала ліст і заплакала. Хлопчык не ведаў, што мама не гуляе ў вайну, а бачыла на свае вочы пакуты людзей…

Да майго юбілею дзіцячыя бібліятэкі краіны абвесцілі конкурс. Дзеці, з якімі я сябрую ўсё жыццё, малявалі малюнкі, пісалі вершы. Прыдзецца мне застацца маладзейшым, чым у пашпарце, да таго моманту, як скончыцца эпідэмія, калі я змагу запрасіць усіх на сапраўдную юбілейную вечарыну!

***Запісала Эла Оліна,***
*Фота аўтара.*

## Прэзідэнт: *“Мы не можам адмяніць парад. Проста не можам”*

3 траўня Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка правёў нараду па пытаннях мерапрыемстваў да Дня Перамогі і эпідэміялагічнай сітуацыі, перадае прэс-служба Прэзідэнта.

... Гаворачы аб мерапрыемствах у гонар 75-годдзя Перамогі, Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў глыбокае ідэалагічнае і эмацыянальнае значэнне параду.

- Павінен сказаць, што мы не можам адмяніць парад. Проста не можам. Я доўга над гэтым думаў. Вядома, гэта эмацыйная, глыбока ідэалагічная рэч. Трэба памятаць, што тыя людзі (удзельнікі вайны. - *Заўвага.*) паміралі, можа быць, і ад вірусаў, іншых хвароб. Але яны гэта не адчувалі часам і пра гэта не думалі. І паміралі яны дзеля нас, як бы гэта пафасна ні гучала. І падумайце, што скажуць людзі. Можа, не адразу, праз дзень, праз два пасля гэтага, - скажуць, што спужаліся, - заявіў кіраўнік дзяржавы.

Пры гэтым Аляксандр Лукашэнка папярэдзіў арганізатараў, што калі будзе прынята гэтая прапанова, то "нікога цягнуць на гэтае мерапрыемства не трэба".

- Не хочуць людзі, баяцца, берагуць здароўе - мы гэта зразумеем. Дастаткова сёння жадаючых - тысячы і тысячы людзей хочуць, каб гэтае мерапрыемства прайшло, - падкрэсліў беларускі лідар.

Кіраўнік дзяржавы расказаў, што сярод жадаючых наведаць парад ёсць і ветэраны ўзброеных сіл.

- Удзельнікаў вайны засталося зусім няшмат. Яны разумеюць, і мы павінны іх зберагчы. Хоць яны і першымі запатрабавалі, каб іх прывезлі на гэтае мерапрыемства. Зразумела, што ім ужо за 90. Падумаем, як з імі быць. Я прытрымліваюся сваёй тактыкі - старых трэба паберагчы. Мы ўсе бачым, што ўсе гэтыя інфекцыі перш за ўсё чапляюцца за старых, хоць хварэюць і маладыя. Таму нікога на гэта масавае мерапрыемства цягнуць не трэба, - сказаў Прэзідэнт.

- Мяне вельмі хвалюе, што людзі не ўхваляць, калі мы, спалохаўшыся, разыйдземся па норах. І наогул, Беларусь - гэта жывы помнік той вайны. І я думаю, што ў гэты дзень тут маглі б прысутнічаць прадстаўнікі ўсіх дзяржаў, - дадаў беларускі лідар.

Аляксандр Лукашэнка ў сувязі з гэтым адзначыў, што асобныя расійскія дэпутаты і сенатары таксама выказалі жаданне наведаць парад у Менску.

- Мы вітаем гэта. Няхай прыязджаюць. Калі трэба для гэтага выдзеліць сродкі сувязі, мы забяспечым. У нас аэрапорт адкрыты. Думаю, мы з кіраўніцтвам Расіі дамовімся пра пералёт жадаючых пабываць у нас. Мы ад нашых сяброў і братоў не закрываем дзверы, - запэўніў кіраўнік дзяржавы.

У цэлым Аляксандр Лукашэнка ўпэўнены, што парад - гэта не самае небяспечнае з пункту гледжання эпідэміёлагаў і вірусолагаў мерапрыемства.

- Таму што яно будзе арганізавана як мае быць. Пра гэта мы пазней скажам. Можа быць, і з трыбуны гэтага параду, - сказаў ён.

Кіраўнік дзяржавы звярнуў увагу, што ні ў мінулыя, ні ў наступныя святы і выходныя дні абмежаванняў у краіне не ўводзілася, і людзі самі вырашалі, дзе ім быць...

*zviazda.by.*

# Нацыянальны імунітэт - не метафара, а рэальны сродак

У гісторыі Беларусі не раз здараліся эпідэміі чумы, халеры, "гішпанкі" іншых пошасцяў. У тыя часы медыцына была значна слабей развіта. Але людзі звярталіся да Вышэйшых сілаў з просьбай аб дапамозе, аб выбаўленні ад хваробы. Прыкладам можа служыць касцёл св. Роха на Залатой горцы ў Менску, сродкі на які складалі на знак падзякі святому Роху за выбаўленне ад халеры, насыпаўшы цэлую горку залатых манет.

Сёння мы маем высокатэхналагічную развітую медыцыну і спадзяёмся, што яна дапаможа. Але ці не павінны мы павышаць сваю духоўнасць, умацоўваць веру, падымаць дух, звяртаючыся да прыкладаў у беларускай гісторыі і літаратуры? З гэтымі пытаннямі мы звярнуліся да вядомага гісторыка, пісьменніка і паэта, аўтара больш 30 кніг прозы, вершаў, эсэ і гістарычных нарысаў, спадара Уладзіміра Арлова.



- Эпіграфам да гэтага адказу я ўзяў бы нядаўнія словы мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча пра тое, што трэба маліцца так, нібы ўсё залежыць толькі ад Бога і рабіць так, нібы ўсё залежыць толькі ад нас.

Узгадайма найперш нашага знакамітага доктара Францішка Скарыну. Ён бліскуча здае экзамен у Падуанскім універсітэце, першым з усходніх славян атрымлівае навуковую ступень доктара медыцыны і неўзабаве, не адракаючыся ад лекарскай практыкі, бярэцца за пераклад Бібліі, каб даць свайму народу "броні духоўныя".

*- Як Вы лічыце, ці можам мы ўмацаваць наш імунітэт, звяртаючыся да беларускай мовы, літаратуры? Бо нездарма сказаў наш класік: " Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!" Магчыма, беларускасць, закладзеная ў падсвядомасці, абароніць нас, як ген нашай нацыі, ген жыцця?*

- Я пагаджаюся з тымі, хто лічыць, што паняцце "нацыянальны імунітэт" - не метафара, а рэальны, магутны (калі гэты імунітэт сапраўды выпрацаваны) сродак супрацьстаяння як эпідэміі духоўнай кшталту ўсюдыіснай заразы "русского мира", так і эпідэміі віруснай. Калі мы ўсведамляем сябе нацыяй, а нашу краіну - сваім домам, які мусім пакінуць дзецям і ўнукам, мы, безумоўна, адчуваем нязмерна большую адказнасць за сябе і бліжняга, чым адчувае атамізаванае насельніцтва.

Мове разам з агульнанацыянальнай гістарычнай памяццю тут належыць неацэнная роля. Так, гістарычна Беларусь ніколі не была, а значыць, і не будзе монамоўнай, як не была і монаканфесійнай або мононацыянальнай, аднак менавіта беларуская мова ёсць тым "цэментам", які змацоўвае нас у нацыю. Не было б яе - не існавала б і нашай дзяржаўнасці. Улюбёныя апанентамі гэтай думкі прыклады некаторых іншых еўрапейскіх дзяржаваў або Лацінскай Амерыкі, тут не спрацоўваюць, але гэта ўжо тэма для іншай размовы.

Карацей кажучы, калі б не існавала беларускай мовы, не існавала б і нашых расейскамоўных, хоць і беларускацэнтрычных суайчыннікаў. Адкуль бы ўзялася тады гэтая іхняя "цэнтрычнасць"?

*- Якія творы ў сусветнай і беларускай літаратуры для Вас з'яўляюцца жыццясцвярджальнымі? Што Вы перачытваеце ў гэты час?*

- Пералік можа атрымацца фантастычна доўгі. У мяне вялікая бібліятэка з некалькіх тысяч тамоў. Як на цяперашні час, калі мноства кніг нескладана знайсці ў інтэрнэце, такі кнігазбор выглядае празмерным і прымушае мяне раз-пораз шчодра дзяліцца з публічнымі і школьнымі бібліятэкамі. Але аснову бібліятэкі захоўваю, бо гэта якраз тыя самыя жыццясцвярджальныя творы, пра якія вы пытаецеся. Мне шкада з імі развітвацца, бо некалі яны фармавалі мае светабачанне, светаразуменне і светаўяўленне. Зрэшты, працягваць уплываць на гэтую трыяду і цяпер. Напрыклад, у дні эпідэміі я ўпершыню і з асалодаю прачытаў раман Мілана Кундэры "Неўміручасць".

Паколькі я ўжо пачынаю адказваць на частку Вашага наступнага пытання, працягну. Перачытваю цяпер "Досведы" французскага філосафа XVI стагоддзя Мішэля Мантэня, дарэчы, стваральніка шанаванага мною жанру эсэ. Перагортваю старонкі Бібліі ў перакладзе Васіля Сёмухі. Перад гэтым заглыбляўся ў выбраныя мясціны чытанага раней выдатнага рамана сучаснага літоўскага пісьменніка Рычарда Гаўляса "Віленскі покер". Па-беларуску кніга шматфарбна загучала, дзякуючы Паўліне Вітушчанцы, дачцэ Сержука Вітушкі, колішняга старшыні легендарнай менскай "Талакі". Рэкамендую гэты раман кожнаму, хто любіць Вільню і добрую літаратуру з глыбокай рэфлексіяй.

Раю таксама звярнуцца да "Чарнобыльскай малітвы" Святланы Алексіевіч. У час эпідэміі гэтая кніга нагадвае кожнаму, што чалавецтва зноў памылілася (будзьма спадзявацца, не фатальна), лічачы сябе валадаром прыроды.

Жыццясцвярджальна гучыць увогуле кожная таленавітая кніга. Некаторыя мае знаёмыя карыстаюцца вольным часам, каб перачытваць улюбёныя рэчы Уладзіміра Караткевіча. Тым, хто яшчэ не ведае, хачу сказаць, што нядаўна выйшаў новы, 18-ты том цяперашняга 25-томніка Караткевіча. Кніга неверагодна жыццясцвярджальная і абсалютна нечаканая! Яе склалі 600 малюнкаў нашага класіка, дзе вы знойдзеце і біблійныя сюжэты, і адметную велікодную паштоўку, і партрэты калегаў ды сяброў, і галерэю герояў пісьменніка. Сярод гэтых герояў знайшлося месца славутаму зайцу, што варыць піва. Хай бы дасціпны малюнак з апетытным Караткевічам чатырохлапым піваварам натхніў айчынных півавараў на заснаванне піўнога фэсту. Такая імпрэза магла б стаць часткаю будучага вялікага фэсту, што рыхтуецца да сёлетняга 90-годдзя пісьменніка і павінен стаць традыцыйным. Гэты ж каранцінсамаізаляцыя некалі, мабыць, скончыцца.

*- Над чым Вы працуеце ў перыяд самаізаляцыі, чым падтрымліваеце сябе і сваіх родных?*

- А працую я цяпер найбольш над падрыхтоўкай да друку новага, ужо чацвёртага выдання маіх "Імёнаў Свабоды". Гэта надзвычай важная для мяне кніга. Цяпер у ёй будзе 366 герояў. Будзеце чытаць з яе штодня па кароткім аповедзе - хопіць акурат на цэлы год, нават на высакосны. Сярод маіх герояў і гераіняў - асобы знакамітыя і тыя, чых імёнаў вы не знойдзеце ў энцыклапедыях. Але ўсіх аб'ядноўвае змаганне за свабоду ў самых розных яе вымярэннях, а таксама - імкненне жыць у вольнай незалежнай Айчыне. З кімсьці мне выпала быць добра знаёмым, хтосьці жыў у іншую эпоху, ды кожны нечым паўплываў на мой характар, на мой светапогляд, урэшце на тое, што я стаў пісьменнікам. Зямныя шляхі гэтых людзей завяршыліся, аднак дожываюцца ў маёй памяці.

У новым выданні семдзесят новых герояў, пачынаючы ад Міхала Клеафаса Агінскага і Уладзіслава Сыракомлі і сканчваючы нашымі сучаснікамі: Васілём Сёмухам, Юрыем Хадыкам, Міхалам Анемпадыставым, Наталляй Санько…

Новыя старонкі прысвечаны паўстанцам і паўстанкам 1863 года - Зыгмунту Серакоўскаму і ягонай жонцы Апалоніі з роду Далеўскіх (яе найцікавейшыя мемуары ў перакладзе Станіслава Судніка друкаваліся ў "Нашым слове"), Людвіку Звяждоўскаму, нарачонай Кастуся Каліноўскага Марыі Ямант, Зыгмунту Мінейку, які пазней стаў ганаровым грамадзянінам Грэцыі. Самі за сябе гавораць беларускаму чытачу імёны Барыса Кіта, Ніла Гілевіча, Валерыя Маракова, Алены Кіш.

Калі ўжо згадаў гэтую народную мастачку, дадам, што новымі героямі кнігі сталі яе прафесійныя калегі Віктар Маркавец, Гаўрыла Вашчанка, Людміла Русава. Мяне вельмі ўразілі лёсы іншадумцаў, а затым савецкіх палітвязняў Браніслава Ржэўскага і Сяргея Ханжанкова. У ліку новых герояў літаратары Уладзімір Жылка і Мойшэ Кульбак, Алесь Ліпай і Таццяна Зіненка, Пятро Васючэнка і Уладзіслаў Ахроменка, педагог і краязнавец Алесь Белакоз, мовазнаўцы Зміцер Саўка і Марыя Лукашук, гісторык і грамадскі лідар з Баранавічаў Віктар Сырыца.

Назваць усіх ў гэтым невялікім інтэрв'ю я проста не магу, але ўспомню яшчэ адно імя - мастак, шматгадовы выкладчык маладзечанскай мастацкай школы Васіль Лазоўскі. Мне пашчасціла высветліць, што менавіта ён прывёз на векапомныя менскія Дзяды 1988 года бел-чырвона-белы сцяг, які тады быў публічна ўзняты ў Беларусі ўпершыню за некалькі дзесяцігоддзяў забароны.

У кнізе шмат трагічных лёсаў, але для мяне яна гучыць аптымістычна. Яна гаючa сведчыць: нас - нязмерна болей, чым здаецца ў хвіліны паняверкі і роспачы. Няхай мае "Імёны", якія павінны выйсці ў Бібліятэцы Радыё Свабода, стануць аптымістычнымі і для вас!

***Гутарыла Эла Дзвінская.***

# Фарміраванне нацыянальнай самасвядомасці вучнёўскай моладзі

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Такую ж ацэнку неабходна даць адказам апытваных на трэцяе пытанне анкеты: *"Назавіце, калі ласка, тры найвялікшыя палітычныя, культурныя ці гістарычныя дасягненні сваёй гісторыі"*. Названы былі садраўды вялікія падзеі з гісторыі і культуры Беларусі: утварэнне Вялікага Княства Літоўскага, кнігадрукаванне, Статут 1588 г., утварэнне Рэспублікі Беларусь (1991 г.).

Станоўчую ацэнку трэба даць і адказам апытваных на шостае пытанне анкеты: *"Назавіце, калі ласка, тры падзеі ці ідэалогіі, якія прычынілі найбольш шкоды Вашай краіне"*. Усе апытваныя такімі падзеямі, ідэалогіямі назвалі перш за ўсё камунізм, бальшавізм, Вялікую Айчынную вайну, русіфікацыю. Усё гэта настолькі ўжо сёння стала вядомым, што яго не назваць проста немагчыма.

Зроблены вышэй аналіз адказаў студэнтаў і выкладчыкаў гістарычнага факультэта БДУ на пытанне праведзенай анкеты дазваляе зрабіць наступныя прапановы:

1. Трэба як найхутчэй зняць з выкарыстання ў сярэдняй і вышэйшай школе савецкія камуністычныя падручнікі. Яны і сёння робяць з беларускай моладзі манкуртаў. Сваім ідэалагічным зместам, матэрыялам яны прапагандуюць "развіты сацыялізм", "савецкую рэчаіснасць", "дасягненні савецкай улады і камуністычнай партыі", фальсіфікуючы гісторыю Беларусі, максімальна замоўчваючы "залаты век" Беларусі, яе вялікіх палітычных і культурных дзеячоў часоў Вялікага Княства Літоўскага. Лепш пакінуць школу без падручнікаў, чым прымушаць моладзь карыстацца гэтай ідэалагічнай атрутай.

2. Настаў час выкарыстаць усе магчымасці, каб вызваліць сярэднюю і вышэйшую школу ад старых выкладчыкаў, загартаваных савецкай камуністычнай ідэалогіяй. Для гэтага трэба выкарыстаць у першую чаргу Закон аб пенсіянерах, які дазваляе ўсіх пенсіянераў звальняць з працы. А сярод выкладчыкаў школы, асабліва вышэйшай, яшчэ вельмі шмат пенсіянераў. Гэтыя выкладчыкі праводзяць урокі, чытаюць лекцыі з тым самым зместам, які быў у іх 10-20 гадоў назад. Максімальнае вызваленне школы ад гэтых выкладчыкаў - гэта вельмі важная ўмова новага выхавання моладзі ў духу беларускасці, нацыянальнай культуры, традацый, звычаяў.

3. Неабходна максімальна хутчэй забяспечыць сярэднюю і вышэйшую школу падручнікамі, напісанымі і надрукаванымі на беларускай мове з новым гістарычным, палітычным, эканамічным, культурным зместам, які адлюстроўвае сапраўдную гісторыю Беларусі - гэтай стрэйшай, а ў свой час і найвяліішай еўрапейскай дзяржавы. У сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі штогод пастувае 15 млн. падручнікаў. На вялікі жаль, нават выдадзеныя на беларускай мове, яны маюць стары змест, старыя прыклады, узятыя з былой Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь. Такому напрамку падрыхтоўкі новых падручнікаў трэба паставіць заслон і друкаваць падручнікі асабліва па гуманітарных навуках з новым зместам. Гэта адна з важнейшых умоў фарміравання нацыянальнай свядомасці ў вучнёўскай моладзі.

4. Для выхавання моладзі ў нацыянальным духу, павышэння інтарэсу да нацыянальнай культуры і прапаганды апошняй маюць вялікае значэнне і старыя нацыянальныя музеі. Трэба выпрацаваць агульнабеларускую праграму адбудовы, рэстаўрацыі музеяў, бібліятэк у цэнтрах былых беларускіх княстваў, асабліва "забытых", "запушчаных", такіх як Тураў, Друцк, Крэва, Свіслач і інш.

### § 2. Гісторыя Беларусі ў адказах гомельскіх студэнтаў і выкладчыкаў

Студэнты-гісторыкі, як і іх выкладчыкі, уяўляюць з сябе не толькі шараговых носьбітаў-спажыўцоў гістарычных ведаў, але перш за ўсё актыўных прафесійных вытворцаў і распаўсюджвальнікаў гэтых ведаў у грамадстве. Таму сістэма гістарычных каштоўнасцей, уласцівая адказаўшым на пытанні анкеты, не толькі прадстаўляе ўзровень і змястоўнасць іх светапогляду, але і дэманструе рэальнае становішча гістарычнай навукі на шляху да стварэння нацыянальнай канцэпцыі гісторыі.

Стварэнне пэўнай сістэмы каштоўнасцей здзяйсняецца звычайна на падставе валодання інфармацыяй аб ацэньваным аб'екце. Таму падаецца цікавым, што большасць апытаных студэнтаў і выкладчыкаў выяўляе цікавасць да гісторыі Беларусі. Так, 79,1% першакурснікаў, 50,9% пяцікурснікаў і 85,7% выкладчыкаў упэўненыя ў сваім веданні айчыннай гісторыі, а 60% студэнтаў і 57,1% выкладчыкаў мае вялікую прафесійную зацікаўленасць у ёй.

Цікава, як рэспандэнты ацэньваюць свае веда гісторыі краін, у кантэкст якіх геапалітычна ўключана Беларусь. Гісторыю Расіі добра ведаюць 74,4% апытаных першакурснікаў, 82,6% пяцікурснікаў і 85,7% выкладчыкаў, гісторыю Польшчы - 34,9% першакурснікаў, 50% пяцікурснікаў і 71,4% выкладчыкаў. Толькі 32,6% студэнтаў 1-га курса і 34,8% - 5-га заявілі аб добрым веданні гісторыі Украіны, толькі 18,6% першакурснікаў і 17,4% пяцікурснікаў адзначаюць гэта ў дачыненні да гісторыі Літвы. (Адпаведныя лічбы для Латвіі - 4,6% і 13%). Дрэнныя веды па гісторыі суседніх краін (апрача Расіі і ў пэўнай ступені Польшчы) тлумачыцца ў беларускіх студэнтаў найперш карыстаннем неарганічнай для Беларусі расійска-савецкай канцэпцыяй гісторыі. У межах яе суседнія з Беларуссю краіны (як і сама Беларусь) не разглядаліся ў якасці гістарычных суб'ектаў, а толькі як пэўныя тэрыторыі падпарадкавання. Гэтае сцвярджэнне ўскосна падмацоўваецца тым, што гісторыю палітычных супернікаў Расіі - СССР: Францыі, Германіі, Вялікабрытаніі большасць пяцікурснікаў і выкладчыкаў добра ведае. Згодна з той жа канцэпцыяй гістарычных суб'ектаў у студэнтаў фарміруецца і шэраг найбольш цікавых аб'ектаў вывучэння: Расія (48,3% усіх студэнтаў), ЗША (23,6%), Францыя (12,1%), Ангяія (15,7%), Германія (13,5%).

Важнай падставай для ўтварэння нацыянальна-гістарычнага мыслення з'яўляецца фарміраванне ўстойлівай сістэмы геапалітычных прыярытэтаў існавання дзяржавы і нацыі. Такія прыярытэты былі вызначаны рэспандэнтамі ў выглядзе пераліку краін, з якімі Беларусі варта найперш падтрымліваць прыяцельскія адносіны; Расія - 63% апытаных студэнтаў, ЗША - 51,7%, Германія - 48,3%, Украіна - 32,6%, Польшча - 25,8%, Францыя і Японія - па 14%. Такім чынам, геапалітыка Беларусі ва ўяўленні гомельскіх студэнтаў мусіць мець характар сінтэзу "рэальнай" геапалітыкі ("Не шукай сяброў далёка, а ворагаў блізка") з арыентацыяй на сусветныя палітычна-эканамічныя цэнтры. Цікава, што прыярытэт Расіі ў зносінах з Беларуссю асабліва падкрэслены ў адказах пятага курса і выкладчыкаў (адпаведна 76,1% і 100% апытаных), у той час, як першакурснікі выказалі перавагу адносінам з ЗША (55,8%) і Польшчай (41,9%). Можна меркаваць, што геапалітычнае зацікаўленне рэспандэнтаў ужо толькі часткова вызначаецца пануючай у мінулым савецкай канцэпцыяй гісторыі, а таксама агульным ідэалагічным кантэкстам. Зацікаўленасць у кантактах з Расіяй, Украінай і Польшчай грунтуецца пэўным чынам на гістарычнай прыязнасці да народаў гэтых краін за дапамогу Беларусі ў XIX-XX стагоддзях, што адбілася ў адказах студэнтаў і выкладчыкаў (57,3% студэнтаў прызнаюць рэальнай такую дапамогу з боку рускіх, 41,6% - з боку ўкраінцаў, 12,4% - з боку палякаў).

Культурна-пазнавальны інтарэс рэспандэнтаў выяўляецца пры адказе на пытанне аб жаданні наведаць тую ці іншую краіну. Найбольшую цікавасць для студэнтаў і выкладчыкаў у гэтым аспекце ўяўляюць: Францыя (61,8% студэнтаў), Італія (56% студэнтаў, 42,9% выкяадчыкаў), ЗША (48,3% студэнтаў). Мяркуем, што такі змест інтарэсу вынікае з цікавасці да культурных і ўвогуле гуманітарных здабыткаў пададзеных краін, і толькі часткова - з іх палітычнай вагі.

Гістарычны інтарэс як складовая частка нацыянальна-гістарычнай свядомасці можа быць выкліканы літаратурнай зацікаўленасцю. Аб гэтым сведчыць і нашае даследаванне: пісьменнікі, называныя часцей за іншых у ліку любімых - гэта гістарычныя пісьменнікі. Так, 22,5% апытаных студэнтаў назвалі Ул. Караткевіча (і ягоныя раманы "Каласы пад сярпом тваім", "Чорны замак Альшанскі"), 16,9% - В. Быкава, 14,6% - А. Салжаніцына ("Архіпелаг Гулаг"), М. Булгакава ("Майстар і Маргарыта") і Г. Сянкевіча ("Крыжакі") назвалі па 10,1% студэнтаў. Відавочны ўплыў гістарычнай прозы на гістарычную свядомасць студэнтаў пачынаецца яшчэ па-за межамі ВНУ (аб гэтым сведчаць адказы першакурснікаў) і не спыняецца на яго заканчэнні (57,1% выкладчыкаў прызнаюць уплыў Ул. Караткевіча, 42,9% - В. Быкава). Немалаважным падаецца і тое, што В. Быкаў, як і Ул. Караткевіч - пісьменнікі з выдатна праяўленай нацыянальна-гістарычнай беларускай самасвядомасцю. Адпаведна 100% і 95,4% першакурснікаў чыталі іх кнігі.

Нацыянальная канцэпцыя гісторыі - гэта не толькі новае бачанне гісторыі Беларусі, але перш за ўсё сінхранізацыя сусветнага гістарычнага працэсу і сістэмы нацыянальных культурных каштоўнасцей такім чынам, што гісторыя Радзімы будзе аднačасова і мадэллю сусветных заканамернасцей, і прызмай для іх разгляду, і гуманістычнай сэнсастваральнай сукупнасцю для кожнага носьбіта нацыянальнага светапогляду.

Прыкметы гуманізацыі навуковай метадалогіі можна заўважыць у адказах гісторыкаў на пытанне аб важнасці пэўных грамадскіх працэсаў. Так, важнасць рэлігій для гісторыі свету адзначаюць 72,1% першакурснікаў, 93,5% пяцікурснікаў і 85,7% выкладчыкаў. Гэтак жа высока ацэнена і дзейнасць вялікіх людзей: 81,4% першакурснікаў, 89,1% пяцікурснікаў, 100% выкладчыкаў. 78,3% студэнтаў пятага курса пазначылі ў адказах важнасць развіцця школ і барацьбы за правы чалавека. Значна меней рэспандэнтаў падкрэсліла традыцыйную для марксісцкай гісторыяграфіі барацьбу класаў: 55,8% студэнтаў першага курса, 58,7% - пятага, 57,1% выкладчыкаў. Гэта найбольш нізкія паказчыкі ва ўсёй шкале адказаў. Аднак насцярожвае той факт, што толькі 41,9% першакурснікаў разумеюць важнасць утварэння нацыянальных дзяржаў. Пры агульнай тэндэнцыі да прыярытэту гуманістычных каштоўнасцей такая пазіцыя можа разглядацца як неразуменне гуманістычнай накіраванасці дзяржаўнага будаўніцтва. (Магчыма, факт выкліканы рэакцыяй на міжнацыянальныя ўзброеныя канфлікты ў Новай Еўропе.)

Сучасная беларуская гісторыяграфія паставіла пад сумненне абгрунтаванасць ужывання тэрміна "Кіеўская Русь", які дэфармаваў і значна звужаў прасцяг айчыннай гісторыі. Аднак адказы гомельскіх студэнтаў і выкладчыкаў сведчаць аб яшчэ моцнай укаранёнасці ў гістарычнай свядомасці міфа аб адзіным дзяржаўным утварэнні трох усходнеславянскіх народаў. Так, 44,2% першакурснікаў і 85,7% выкладчыкаў лічаць Кіеўскую Русь пачаткам гісторыі Беларусі. У той жа час 45,7% пяцікурснікаў не згодныя з такім меркаваннем. Большасць апытаных прызнае Кіеўскую Русь пачаткам гісторыі Расіі і Украіны. Такім чынам, міф аб дзяржаўным адзінстве рускіх, украінцаў і беларусаў не пераадолены гісторыкамі Гомельскага ўніверсітэта.

Наступны гістарычны міф, з якім сутыкаецца разняволеная беларуская свядомасць - ідэя аб безумоўна станоўчым выніку далучэння Беларусі да Расіі, і як яго найноўшы варыянт, далучэння да СССР. У нашым выпадку адмаўляюць станоўчыя вынікі, сцвярджаючы затрымку развіцця Беларусі пры першым "уз'яднанні" ўсяго 20,1% першакурснікаў і 37% студэнтаў-выпускнікоў, пры другім "уз'яднанні" - усяго 20,1% першакурснікаў і 30,4% выпускнікоў. Кансерватызм студэнцкай свядомасці, што выступае тут вынікам традыцыйнага прарасейскага прыярытэту (магчыма, і рэгіянальнага гомельскага паходжання), можа стаць сур'ёзнай перашкодай на шляху пабудовы недагматызаванай гісторыі Радзімы.

Новая, гуманістычная парадыгма гістарычнага разумення ўключае ў разгляд грамадскія фактары і культурныя дамінанты, наяўнасць якіх у развіцці народаў ці ігнаравалася, ці дагматычна вызначалася як негатыўны факт марксісцкім грамадазнаўствам. Перш за ўсё гэта тычыцца ўздзеяння рэлігій на гісторыю народаў. Раней мы засведчылі цікавасць рэспандэнтаў да рэлігій як да важнейшых чыннікаў гісторыі. Удакладняючы гэтую тэзу, студэнты і выкладчыкі абсалютнай большасцю вызначаюць хрысціянства за безумоўна станоўчую каштоўнасць беларускай гісторыі (адпаведна 95,4% для 1 курса, 100% для 5-га, 85,7% для выкладчыкаў). Інакш ацэньваюць апытаныя гістарычныя ролі асобных хрысціянскіх плыняў, існаваўшых на Беларусі. Большасць апытаных адназначна станоўча ацэньвае ролю праваслаўнай царквы (79% - 1 курс, 71,7% - 5). Такая ацэнка карэлюецца з аднясеннем рэспандэнтаў да праваслаўнага веравызнання (83,7%) і фіксуе традыцыйную каштоўнасць большасці насельніцтва Беларусі, каштоўнасць, якую пэўным тэндэцыйным чынам выкарыстоўвала і марксісцкая гісторыяграфія. Рэспандэнты вызначаюць таксама вялікую ролю праваслаўя ў развіцці культуры Беларусі, Літвы, Польшчы, Украіны XVII стагоддзя (83,7% і 76,1%).

*(Працяг у наст. нумары.)*

# Дзе і як вы сустрэлі Дзень Перамогі?

Старэйшыя жыхары Менска, удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны, былыя вязні канцлагераў і дзеці вайны, якія ў гэтым годзе не могуць наведваць святочных вечарын і канцэртаў, падзяліліся сваімі ўспамінамі і ўражаннямі па тэлефоне.

**Антон Іванавіч Быстрык, 1928 г.н.**

- Я сустрэў Дзень Перамогі ва Усходняй Прусіі, недалёка ад Кёнігсберга. Быў паранены і знаходзіўся ў шпіталі. Але хутка выздаравеў і вярнуўся на радзіму. Вайну я прайшоў сувязістам. Нарадзіўся ў вёсцы Лекараўка Заслаўскага раёна Менскай вобласці. Трыццаць гадоў працаваў у Менску на велазаводзе, завод мяне не забывае. А з маёй жонкай Зінаідай Васільеўнай я пражыў разам каля 70 гадоў!

**Аляксандр Дзмітрыевіч Дзянісаў, 1928 г.н.**

- Ваенныя гады мы правялі на акупаванай тэрыторыі. Фашысты адчынілі канцэнтрацыйны лагер на тэрыторыі аэрадрома паблізу ад Магілёва.

Добра памятаю, як войскі вызвалялі нашу вёскі Палыкавічы 26 чэрвеня 1944 года!

23 чэрвеня 1944 года пачалася аперацыя "Баграціён" па вызваленні Беларусі. Пасля цяжкіх баёў на рэках Проня і Бася войскі 2-га Беларускага фронта выйшлі да Магілёва. У раёне нашай вёскі нямецкія войскі аказвалі моцны супраціў, ішлі гарачыя баі.

У час абстрэлаў нас, хлапцоў, засыпала зверху зямлёй, і мы засталіся ў жывых. Вёска была ўжо напалову спаленай. Раніцай 27 чэрвеня савецкія войскі вызвалілі яе ад фашыстаў.

27 чэрвеня па ўсім фронце ад Шклова да Быхава ішло фарсіраванне Дняпра. Магілёў нашы войскі занялі 28 чэрвеня 1944 года…

У мірны час я быў спецыялістам па электроніцы, працаваў на прадпрыемстве радыёэлектроннай прамысловасці "Белвар".

**Антаніна Васільеўна Грыгор'ева, 1930 г.н.**

- Выдатна памятаю дзень у красавіку, калі нас вызвалялі нашы войскі з канцлагера, які знаходзіўся недалёка ад Вены ў Аўстрыі. Мы радаваліся, падкідвалі адзін аднаго ў паветра!



9 мая мы сустрэлі ўжо ў дарозе, цягніком нас адправілі дадому. А вярнуліся мы з матуляй на папялішча! Ні кала, ні двара, выжывай, як можаш. Нашу вёску Міхалькі Гомельскай вобласці фашысты спалілі да шчэнту. Але ж мы выжылі! Я пераехала ў Менск да сястры, вучылася ў школе, адпрацавала ўсё жыццё на заводзе імя Леніна. А потым, на пенсіі, яшчэ 25 гадоў - у першым клінічным шпіталі. Выгадавала трох дачок, дапамагла ім атрымаць вышэйшую адукацыю. Упэўнена, што мы перажывем каронавірус, бо перажывалі і больш цяжкія часы. Жадаю ўсім здароўя!

**Марк Васільевіч Маслакоў, 1927 г.н.**

- Мы жылі ў Магілёўскай вобласці ў Краснаполлі. Нас вызвалілі ў верасні 1943 года. Да гэтага мне давялося пазмагацца ў партызанах з лета 1943 года. Моладзь і падлеткі сышлі ў лясы. У адной з партызанскіх аперацый я здабыў вінтоўку, якая паслужыла мне яшчэ доўгі час, калі я ахоўваў калгасных коней на стайні. Пасля вызвалення я працаваў у прамысловым камбінаце, навучыўся сталярнай справе, вырабляў мэблю. Пайшоў у войска і там асвоіў спецыяльнасць радыёмеханіка.

**Юліян Юліянавіч Ступакевіч, 1937 г.н.**

- Наша вёска Навасёлкі знаходзілася ў Шчучынскі раёне Гарадзенскай вобласці недалёка ад Нёмана. Памятаю, як ішлі баі на другім баку Нёмана, як выганялі немцаў, вызвалялі нашу мясцовасць.

Пасля вызвалення ў вёсцы адкрылі школу, і я пайшоў у першы клас. Даводзілася шмат працаваць, нарыхтоўваць кармы, даглядаць жывёлу. У хуткім часе моладзь заахвоцілі паехаць на будоўлю сталіцы.

Пасля службы ў войску я адбудоўваў Менск. 43 гады адпрацаваў у будаўнічым трэсце № 1. Наш трэст будаваў дамы на Камароўцы, у Чыжоўцы, і ў іншых раёнах сталіцы. Двойчы я атрымоўваў званне лепшага будаўніка трэста. Будавалі мы 1-шы і 5 клінічныя шпіталі ў Менску. У пазнейшыя гады давялося папрацаваць ў Лівіі на будаўніцтве вайсковых гарадкоў.

Усё жыццё жыву з Богам, чытаю Біблію, не выходжу на вуліцу без малітвы, бо я нарадзіўся ў сям'і праваслаўнага святара, мой малодшы брат - святар.

З жонкай Нінай Аляксееўнай мы пражылі больш за 60 гадоў, выгадавалі сына і дачку. Жадаем усім добрага здароўя, беражчыся і быць уважлівымі!

**- Валянціна Іванаўна Салавей, 1939 г.н.**

- Некалькі гадоў запар я выходжу 9 мая на плошчу Перамогі з партрэтамі родных. Дзень Перамогі быў для іх найвялікшым святам!

Мае бацькі Іван Трафімавіч Салавей і Вольга Аляксееўна Міхайлоўская былі медыкамі. Да вайны мы жылі ў вёсцы Урэчча Слуцкага раёна. Мама і тата працавалі ў мясцовай бальніцы, з пачаткам вайны сталі членамі падпольнай арганізацыі, перадавалі медыкаменты ў партызанскі атрад, і потым сышлі ў любанскія лясы. Маленькай дзяўчынкай я знаходзілася разам з імі ў партызанскім атрадзе № 5 імя Лазо брыгады № 64 імя Чкалава, зведала голад і холад. Нават у часы вайны тата быў вельмі прынцыповым і патрабавальным да пытанняў гігіены, у яго ў атрадзе ніхто не захварэў на тыф, ён вельмі дбайна даглядаў параненых, аказваў дапамогу мясцовым жыхарам.

У чэрвені 1944 года атрад злучыўся з 64 партызанскай брыгадай пад кіраўніцтвам М.М. Розава і 100 брыгадай пад кіраўніцтвам А. І. Шубы.

Гэтыя падраздзяленні разам з вайсковымі часткамі 30 чэрвеня вызвалілі Слуцк. Тата вызваляў горад, а мама засталася ў лесе даглядаць параненых. Яна моцна хвалявалася за іх і за сябе, бо была цяжарнай. Праз тры месяцы нарадзіўся мой брат Валодзя. Мой тата і доктар Аляксей Іванавіч Шуба надоўга засталіся добрымі сябрамі.

У мірны час я скончыла медыцынскі інстытут у Пяцігорску і ўсё жыццё працавала фармацэўтам у розных аптэках Менска. Усім жадаю моцы і здароўя!

*Гутарыла Эла Дзвінская.*



**На здымку:** Антаніна Васільеўна Грыгорьева. Фота аўтара.

# Ідзе канцэнтрацыя творчых высілкаў

Як уплывае крызіс, звязаны з каронавірусам, на творчых асобаў?

Гэта пытанне мы задалі мастаку, пісьменнікам, даследчыцы, артысту.

**Рыгор Сітніца:**



- На мяне крызіс ніяк не ўплывае! Я ўпэўнены, што мы яго пераадолеем, бо Беларусь перадольвала і не такія выпрабаванні, і яна ЖЫВЕ!

Пасля майго вызвалення з пасады старшыні Беларускага саюза мастакоў, у мяне з'явілася шмат часу на творчую дзейнасць. З раніцы я пехатой іду ў майстэрню, шмат малюю, пішу. З'явіліся новыя графічныя працы.

Рыхтую да выдання дзве кнігі: кнігу паэзіі і вялікую па аб'ёме кнігу прозы. У кнігу прозы ўвойдуць дзве аповесці і раман. Аповесць будзе мець назву "Спаліць Эрмітаж", яна прысвечана гісторыі мастацтва. Гэта будзе свайго роду лекцыя пра сучасных мастакоў. У п'есе дзейнічае лектар, ультрасучасныя мастакі, узгадваюцца Пабла Пікаса, Казімір Малевіч, Язэп Драздовіч.

Крызіс адмяніў дзве мае персанальныя выставы ў Эстоніі і Славакіі і пяць маіх сур'ёзных паэтычных вечарын, якія мелі адбыцца ў Купалаўскім музеі ў Менску, Гомелі і ў Оршы, а таксама ў Маскве і ў Зорным гарадку. Між іншым, у Зорным гарадку цікавяцца беларускай паэзіяй! Там працуе шмат беларусаў, тэхнічныя супрацоўнікі, жонкі касманаўтаў, персанал, які абслугоўвае запуск касмічных караблёў.

Веру, што ўсе сустрэчы адбудуцца пазней. Купалаўскі тэатр перанёс паэтычную вечарыну на восень.

**Віктар Карамазаў:**

- Каронавірус не перашкаджае мне думаць і працаваць. Працую дома за друкарскай машынкай. Нарадзіліся новыя старонкі, прысвечаныя Міхасю Стральцову. Будзем рыхтавацца да юбілею Вітольда Бялыніцкага-Бірулі.

Мастацтва мацнейшае да вірус!

**Наталля Давыдзенка:**

- Працягваю апрацоўваць нататнікі Рыгора Іванавіча Барадуліна. Працую нам 8-ым томам "Дзённікаў і запісаў". Сёмы том выйшаў у выдавецтве "Кнігазбор" накладам ў 60 асобнікаў, паступіў у бібліятэкі краіны і быў падораны мной асобам, якія цэняць творчасць народнага паэта. Том ахапіў падзеі 1996-97 гадоў. Дамаглася па-ціхаму патрапіць у бібліятэку і здабыць неабходныя мне кнігі праз абанемент.

**Зміцер Вайцюшкевіч:**

- Працую над новым дыскам для дзяцей на вершы Аляксея Пысіна. Музыканты па-асобку займаюцца сваімі праектамі. Знаходзімся ўвесь час на прыродзе, каб уцячы ад дрэнных думак. На Нёмане вельмі добра, у лесе спяваюць салаўі, цінькаюць сінічкі, скачуць зайчыкі і бегаюць казулі. Я ўжо не аднойчы купаўся ў Нёмане. Людзі прыязджаюць да нас, каб некуды схавацца ад горада. Месяц жылі і адпачывалі ў нас у асобным дамку ўдзельнікі Еўрабачання Naviband Ксенія і Арцём Лук'яненкі з маленькім сынам.



*Гутарыла Эла Дзвінская.*

